**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

34 (594) 25 жніўня 2011 года

Кошт свабодны.

**Докшыцкі раён**

# Хоць паслугі і не профільныя

■ Станіслаў Раманчук

**Рознымі відамі дзейнасці цяпер прыходзіцца займацца калектывам, каб выжыць, зарабіць дадатковыя грошы і захаваць працоўныя месцы.**

Вось і ў Докшыцкім раёне яшчэ летась перадалі пусты будынак былога хлебазавода мясцоваму райкамунгасу. Спачатку камунальшчыкі ў адным з памяшканняў сталі аказваць паслугі аўтамабілістам на ажыўленай трасе Мінск-Віцебск па шынамантажы. У далейшым з'явілася ўжо сапраўдная станцыя тэхнічнага абслугоўвання не толькі легкавушак, але і грузавых аўтамабіляў. Прадпрыемства "Докшыцы-камунальнік" закупіла неабходныя механізмы для зварачных работ, экспрэс-замены масел, рэгуліроўкі фар і развалу калёс. Устанавілі пад'ёмнікі і аглядавыя ямы, па прымальных цэнах сталі праводзіць і мыццё абслугоўваемых машын. Галоўнае, што з'явілася дадаткова 9 новых рабочых месцаў, прыйшлі працаваць талковыя спецыялісты сваёй справы. На гэтым камунальшчыкі не спыніліся і знайшлі прымяненне і для свабоднага памяшкання па суседстве. Там пачаў працаваць новы цэх па разліве якаснай пітной бутыляванай вады. Яе дабываюць з глыбокай артэзіянскай свідравіны і потым разліваюць у пластыкавыя бутэлькі ёмістасцю 5 літраў, якія спецыяльна тут вырабляюцца. Гэтай дзейнасцю занялася цэлая брыгада з 10 работнікаў. Як чакаецца, будзе попыт у гараджан і на амаль што крынічную гаючую ваду з Бярэзінскага краю.

**Мёрскі раён**

# Даўгабуд – гэта па-нашаму

■ Чэслаў Якубовіч

**Дзясяткі калісьці пачатых, але так і не завершаных аб'ектаў вытворчай і сацыяльнай сферы – горкая рэчаіснасць нашых дзён.**

Не пашанцавала і райцэнтру Мёры, дзе яшчэ ў далёкім 1992 годзе пачалі ўзводзіць новы будынак цэнтральнай раённай бальніцы. Але тады развалілася вялікая савецкая краіна, наступіў перыяд працяглага заняпаду, і медыкам проста не пашанцавала, як, дарэчы, і іх калегам з суседняй Шаркоўшчыны. Нягледзячы на ўсе намаганні мёрцаў і мясцовага кіраўніцтва, будоўля бальніцы была замарожана, і толькі сёлета лёс недабудаваных карпусоў змяніўся ў лепшы бок. Як паведаміў новы кіраўнік аховы здароўя Віцебскай вобласці Юрый Дзяркач, да канца 2012 года новую райбальніцу ў Мёрах павінны здаць. На гэты конт адпаведнае даручэнне даў старшыня аблвыканкама Аляксандр Косінец, медык у мінулым.

Абласная ўлада прыняла на гэты конт адпаведнае рашэнне. Аднак сёлета летам толькі завяршыліся неабходныя праектныя работы. Патрабуецца абследванне і тэхнічны аналіз стану цяперашніх недабудаваных карпусоў бальніцы. Калі марозы, снег і дождж за амаль два дзесяцігоддзі іх не загубілі, то магчыма, што старыя будынкі ўдасца рэканструяваць для далейшага лячэння насельніцтва. Яшчэ адной з застарэлых праблем Прыдзвіння з'яўляецца недахоп урачоў. Хоць за 3 апошнія гады на працу накіравалі больш за паўтысячы выпускнікоў медыцынскіх ВНУ, але не запоўнены вакансіі 217 урачоў, з якіх 89 спецыялістаў чакаюць медустановы ў сельскай мясцовасці.

**Пастаўскі раён**

# Вось такое "Бяспечнае лета"

■ Кастусь Александровіч

**У многіх рэгіёнах краіны адзначаецца сёлета павелічэнне колькасці дарожна-транспартных здарэнняў з цяжкімі наступствамі і, на жаль, сярод самых неабароненых удзельнікаў руху – дзяцей.**

Гэтую сумную статыстыку дапоўніў і Пастаўскі раён, дзе яшчэ ў маі раненне на дарозе атрымаў вучань малодшых класаў. У жніўні тут адбылася самая сапраўдная трагедыя: брат наехаў на малодшую родную сястру. У той сонечны дзень пры добрай бачнасці днём пасля пяці гадзін паблізу вёскі Целякі па прасёлачнай дарозе на трактары "МТЗ-82" ехаў 24-гадовы механізатар сельгасппрадпрыемства "Хацілыагра". Быццам на бяду, у гэтым месяцы апынулася і яго малодшая 14-гадовая сястра з веласіпедам. Неасцярожнасць дзяўчынкі і няўважлівасць вадзіцеля ў выніку абярнуліся непапраўнай бядой. Школьніца хацела павярнуць у родную вёску, але апынулася пад калёсамі бочкі з вадой. Дзяўчынка памерла на месцы аварыі. Сумна, але трагедыя адбылася падчас правядзення ў вобласці спецыяльнай прафілактычнай акцыі "Бяспечнае лета", накіраванай на прадухіленне дзіцячага дарожнага траўматызму. Як на грэх, у той самы дзень у абласным цэнтры па віне 37-гадовай віцяблянкі ледзь не загінула яе дачка. Гараджанка вырашыла ў двары дома павучыць ездзіць на прыпаркаванай іншамарцы, але, не маючы спрыту, ледзь не забіла дзяўчынку, якую з траўмамі даставілі ў бальніцу.



# Лічба нумара

**212** – у стольких установах новага тыпу – гімназіях, па дадзеных Міністэрства адукацыі Беларусі, праз некалькі дзён пачнецца новы навучальны год. Яны былі створаны ў нашай краіне ў адпаведнасці з праводзімай рэформай сферы адукацыі з мэтай павышэння якасці навучання згодна з усё узрастаючымі патрабаваннямі часу. Пакуль ад агульнай колькасці беларускіх школ гімназіі займаюць сціплае месца (усяго 6 % ад агульнаадукацыйных устаноў).

З кожным годам сюды трапіць на вучобу імкнуцца многія, ды не ў кожным раёне краіны гімназіі працуюць. У прыватнасці, на Віцебшчыне сёння 25 гімназій, і большасць з іх – у абласным цэнтры. Каб стаць гімназістам, трэба было ў пачатку лета паспяхова здаць уступныя экзамены і мець як мага лепшыя гадавыя адзнакі за 4 клас. З гэтага года ўмовы прыёму ў гімназіі былі зменены, і конкурс, напрыклад, у Мінску быў параўнальны з прэстыжнай ВНУ. У сталічныя 42 гімназіі і адну гімназію-каледж пры БДУ падавалі дакументы 5 тысяч выпускнікоў мінскіх пачатковых школ.

З іх толькі крыху больш за 3 тысячы атрымалі ганаровае права гімназістам звацца і добрыя шанцы паспяховай жыццёвай будучыні. Не сакрэт, што падрыхтоўка выпускнікоў гімназій намнога лепшая, чым іх равеснікаў з агульнаадукацыйных школ. Практычна ўсе гімназісты становяцца студэнтамі, як правіла, дзённых аддзяленняў бюджэтнай формы навучання. Але гэта яшчэ наперадзе, а пакуль жа гімназістамі, па-сутнасці, вучнямі 5 гімназічных класаў сталі крыху больш за 12 тысяч адораных хлопчыкаў і дзяўчынак.

Дарэчы, у мінулым годзе гэты кантынгент дасягаў 14 % ад агульнай колькасці вучняў 5-х класаў па краіне. Сёлета гімназістаў стала менш, у параўнанні са сваімі аднагодкамі, на 0,7 %. Каб стаць гімназістам, сёння ў пачатковай школе трэба займацца на 7 і вышэй балаў па асноўных прадметах. У параўнанні са школай, у гімназіях больш гадзін адводзіцца на вывучэнне матэматыкі і замежных моў, там працуюць педагогі толькі з вышэйшай і 1-й кваліфікацыйнымі катэгорыямі. Кожная гімназія мае свой асноўны накірунак падрыхтоўкі – ад фізіка-матэматычнага да філалагічнага, шмат увагі ўдзяляецца пазаўрочнай рабоце і пачатку навукова-практычнай дзейнасці маладога чалавека

Як вынік, сёлетняе цэнтралізаванае тэсціраванне паказала, што сярэдні бал ведаў выпускнікоў гімназій быў на 13 пунктаў вышэйшы за выхаванцаў сярэдніх школ. Свой высокі ўзровень падрыхтоўкі выпускнікі гімназій прадэманстравалі нядаўна на ўступных экзаменах у ВНУ. Там была сапраўдная барацьба, паколькі, як і чакалася, вучыцца бясплатна ў нас па-ранейшаму маюць права толькі 4 з 10 залічаных студэнтаў першага курсу. Яшчэ далёка да 1 верасня было аб'яўлена аб падаражэнні атрымання вышэйшай адукацыі. ВНУ аб'явілі кошт навучання, праўда, толькі для першакурснікаў.

У выніку самым танным стаў Віцебскі тэхналагічны ўніверсітэт, дзе студэнту-платніку за першы год навучання трэба ўнесці ад 4 млн. рублёў. Як і раней, самы "дарагі" ва ўсіх сэнсах – Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (кошт навучання – да 7 млн. 484 тыс. рублёў). Да гэтай сумы шмат каму трэба дадаць грошы за пражыванне на здымнай кватэры ў суме да 100 долараў у месяц. Вось і выкручвайся, як хочаш, бацькам і дзецям з маламаёмных сем'яў. А што іх у нас шмат, засведчыла пастанова № 1052 аб ільготным крэдытаванні бацькоў на закупку дзіцячага адзення і абутку, вучнёўскіх ранцаў і заплечнікаў беларускай вытворчасці пры падрыхтоўцы дзетак у школу.

Тым сем'ям, у каго дзеці пойдуць у школу або з'явіліся студэнты-платнікі, прыйдзецца добра раскашэліцца. Агульны рост цэн у краіне ўжо вырас больш як на 40 %. У ліпені інфляцыя быццам спынілася пры росце на 3,6 %, але гэта толькі перадышка перад новым рыўком. Закупачныя цэны на новы ўраджай ужо выраслі на 30-67 %, крыху меней на мяса, што непазбежна выклікае рост цэн на харчаванне. Нават каб праехаць у сталіцы разок на метро, трэба выкласці 900 рублёў. Сапраўды, добрыя веды і прэстыжныя дыпломы цяпер у нас каштуюць вялікіх грошай на фоне пустуючых паліц магазінаў.

**Надвор'е ў Глыбокім** www.rp5ru

| | чацвер 25.08.11 | | | | пятн. 26.08.11 | | | | сб. 27.08.11 | | | | нядз. 28.08.11 | | | | пн.29.08. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +12 | +17 | +22 | +17 | +13 | +17 | +23 | +18 | +14 | +18 | +25 | +22 | +17 | +16 | +19 | +16 | +12 | +15 | +18 |
| Ціск, мм | 754 | 754 | 753 | 753 | 754 | 755 | 753 | 752 | 752 | 751 | 749 | 747 | 749 | 749 | 748 | 747 | 748 | 747 | 745 |
| Вільготнасць, % | 97 | 82 | 52 | 77 | 82 | 69 | 49 | 65 | 76 | 65 | 49 | 67 | 99 | 91 | 70 | 74 | 86 | 77 | 56 |
| Вецер м/сек | В 3 | Ю-В 3 | Ю 4 | Ю-В 3 | Ю 3 | Ю 5 | Ю 7 | Ю-В 4 | Ю 5 | Ю 8 | Ю 9 | Ю 5 | З 2 | Ю-З 1 | Ю-З 5 | З 3 | З 2 | Ю-З 3 | З 6 |
| | | 06:01 | 20:20 | | | 06:03 | 20:18 | | | 06:05 | 20:16 | | | 06:07 | 20:13 | | | 06:09 | 20:11 |

## Дзень за днём

**Толькі пры ўмове штомесячнай інфляцыі вышэй за 5 % паабяцалі бюджэтнікам у Беларусі індэксацыю іх сціплых заробкаў. Ужо 769 буйных айчынных прадпрыемстваў сталі ўстойліва непалацежаздольнымі, а ў эканоміцы Беларусі пачаліся сур'ёзныя праблемы. Зноў падаражэлі для беларусаў грамадскі транспарт, хлеб, тарыфы на ацяпленне, газ. З новага года ў краіне пачне дзейнічаць адзіны Следчы камітэт, аналаг амерыканскага ФБР. На ўзроўні ўраду РБ прызналі істотнае пагаршэнне ўзроўню жыцця насельніцтва, бо ў людзей ледзь хапае грошай на харчаванне.**

# Важнейшыя навіны свету

**Расія.** Расійскі прэм'ер зрабіў правакацыйную заяву аб магчымым стварэнні адзінай дзяржавы Расіі, куды магла б увайсці і Беларусь, як гэта было ў часы СССР.

**ЗША.** Амерыканскі Кангрэс прагаласаваў за паэтапнае зніжэнне дзяржаўных і ваенных расходаў на суму 2,417 трлн. $ у бліжэйшыя 10 гадоў, чакаецца дэвальвацыя долара.

**Індыя.** Краіна стала новым старшынёй Савета бяспекі ААН і паабяцала асноўную ўвагу надаць завяршэнню узброеных сутыкненняў у Лівіі, міратворчым місіям у свеце.

**Егіпет.** На судзе па справе аб масавых расстрэлах дэманстрантаў, злоўжыванні ўладай 83-гадовы сур'ёзна хворы экс-прэзідэнт Хосні Мубарак не прызнаў сваёй віны.

**Польшча.** Глава МЗС Р. Сікорскі заклікаў кіраўніцтва Беларусі ўзяць прыклад з экс-лідара ПНР В. Ярузельскага і пачаць перамовы аб мірнай перадачы ўлады, МЗС РБ гэта адверг.

**Расія.** Упершыню ў РФ па Амурскай вобласці пранёсся магутны смерч-тарнада, які забіў чалавека, параніў 30, у Благавешчанску пераносіў нават фуры, крушыў усё запар.

**Чэхія.** Чэшскім СМІ па новаму закону дазволілі публікаваць праслухавання тэлефонных размоваў палітыкаў і чыноўнікаў урада, калі яны станудь на шлях злачыннай дзейнасці.

**Украіна.** Шахты краіны пацвердзілі статус адных з самых небяспечных у свеце, сёлета ўжо адбылося 9 аварый, выплаты па 1 млн. грывень не кампенсуюць гора людскіх страт.

**Германія.** З мэтай умацавання Еўрасаюзу міністр фінансаў ФРГ Вольфганг Шойбле прапанаваў увесці пасаду прэзідэнта ЕС, якога б абіралі ўсе грамадзяне супольнасці.

**Іран.** Урад краіны пайшоў на смелыя эканамічныя рэформы, адпусціў цэны на харчаванне, газ, бензін, іншае паліва, у якасці кампенсацыі сталі даваць людзям па 40 $ штомесяц.

**Кітай.** Аўтарынак краіны выйшаў на 1-е месца ў свеце па аб'ёмах продажу за паўгода 7,2 млн. штук аўто, найлепшы рост з краін СНД , у 1,5 разы, паказала Расія (1,2 млн. машын) і 7-е месца.

**Іспанія.** Пасля ўвядзення забароны на бой з быкамі ў Каталоніі ўрад краіны дэкрэтам прызнаў карыду "відам мастацтва і з'явай культуры", каб прадухіліць новыя забароны.

**Англія.** Вучоныя Кембрыджскага ўніверсітэта ўстанавілі, што інтэлектуальнае развіццё чалавецтва дасягнула свайго піку, людзі на зямлі не ў стане стаць разумнейшымі.

**Украіна.** Правячая партыя рэгіёнаў услед за Расіяй распрацавала законапраект, які прадугледжвае знішчэ адказнасці за выраб і захоўванне самагонкі без мэты яе збыту.

**Шатландыя.** У кватэры жыхаркі горада Абердын пасля выпадковага мыцця ў пральнай машыне на працягу 50 хвілін цудам выжыла кошка, яна ачуняла праз 2 дні .

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Як заявіў віцэ-прэм'ер С. Румас, цэны ў Беларусі будуць расці да ўзроўню суседніх краін з-за дэвальвацыі і шматлікіх курсаў валюты, рэзка ўзрос вываз харчавання за мяжу.

**Мінск.** Ураджэнцам Віцебска, 25-гадовым Уладзіславу Кавалёву і Дзмітрыю Канавалаву, якія абвінавачаны па справе выбуху ў сталічным метро, пагражае смяротнае пакаранне.

**Магілёў.** Злосным неплацельшчыкам гаркамунгас прыгразіў адключэннем каналізацыі туалетаў, гэта больш эфектыўна, чым пазбавіць іх электрычнасці ці гарачай вады.

Чавусы. Польская фірма "Kraeva spulka cukrowa" выбрала райцэнтр для ўзвядзення новага цукровага завода, які стане самым магутным у РБ, аб'ём інвестыцый – 300 млн. еўра.

**Пінск.** На аўтобусным прыпынку вёскі Малая Плотніца пасля моцнага ўдару маланкі з 10 чалавек пацярпелі трое, двух мужчын і жанчыну адразу адвезлі ў райбальніцу.

**Брэст.** Былы глава Нацбанка РБ Пётр Пракаповіч пасля сваёй адстаўкі на свяце 992-годдзя абласнога цэнтра атрымаў пачэснае званне ганаровага грамадзяніна горада.

**Мінск.** Вярхоўны суд апраўдаў следчага па асабліва важных справах Генпракуратуры РБ Святлану Байкову па 4-х з 5-ці абвінавачаннях і пакараў за 2 гадамі "хатняй хіміі".

**Шклоў.** Медыкі не пацвердзілі, але і не абверглі, што 56-гадовая Галіна Лукашэнка, афіцыйная жонка лідара РБ пасля інфаркту трапіла на лячэнне ў 4-ю гарбальніцу Мінска.

**Ліда.** Першых наведвальнікаў нарэшце прыняў спартыўна-аздараўленчы цэнтр "Алімпія" з плавальным басейнам і гарстадыён, іх не паспелі здаць да мінулагодніх "Дажынак".

**Рагачоў.** Мясцовы МКК пачаў будаўніцтва новага цэха па выпуску цвёрдых сыроў у аб'ёме да 20 тон у суткі на абсталяванні вядомай у ЕС фірмы з Аўстрыі, запуск праз год.

**Маладзечна.** Пасля рэканструкцыі цэнтральную плошчу горада ўпрыгожыў музычны фантан са скульптурамі хлопца і дзяўчыны на Купаллі замест звыклага помніка Леніна.

**Мінск.** Зонай, свабоднай ад курэння, прызналі ўлады Маскоўскага раёна сталіцы плошчу Незалежнасці і прылеглыя тэрыторыі БДУ, БДПУ, кафэ, рэстараны, цэнтры гандлю.

**Столін.** Жыхароў вёскі Адвержычы і ваколіц шакіраваў факт забойства нажом падчас бойкі 22-гадовай жанчыны яе роднай сястрой, старэйшай на 5 гадоў, з-за рэўнасці.

**Барысаў.** Зноў парадавала беларускіх балельшчыкаў каманда БАТЭ, якая трапіла ў групавы раўнд прэстыжнага еўрапейскага футбольнага турніру і пацвердзіла свой клас.

**Карэлічы.** У гарпасёлку Мір трагічна загінуў 6-гадовы хлопчык, што гуляў з памятнай гранітнай плітой, якая потым упала на яго з нішы храма.

## Вызначаны кошт камплектаў школьных падручнікаў



■ Анастасія Янушэўская, БелаПАН

**Пастановай Міністэрства адукацыі № 227 ад 12 жніўня ў Беларусівызначаны кошт камплектаў школьных падручнікаў, паведаміў намеснік міністраадукацыі Казімір Фарыно 18 жніўня на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

Паводле яго слоў, бацькі будуць плаціць 50% за карыстанне падручнікамі ад поўнага кошту. У першым класе кошт камплекта падручнікаў складзе 19 тыс. 750 рублёў, у 11-м класе – 29 тыс. 900 рублёў. Больш за ўсё бацькам давядзецца заплаціць за камплекты падручнікаў для 9-га класа – 41 тыс. 150 рублёў. "Вялікая колькасць падручнікаў перавыдаецца, таму кошт падручнікаў мяняецца", – сказаў намеснік міністра.

Як заявіў Фарыно, усе школы ў новым навучальным годзе будуць забяспечаныя падручнікамі і вучэбнымі дапаможнікамі. Яны выдадзеныя ў адпаведнасці з планам, толькі другая частка вучэбнаметадычных дапаможнікаў, якія выкарыстоўваюцца ў другім паўгоддзі, будзе выдавацца пасля верасня.

Усяго з 1 верасня ў школах з'явіцца 150 выдадзеных найменняў падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў. Восенню запланавана выданне 12 найменняў другой часткі падручнікаў. Акрамя таго, падрыхтаваныя дыскі з электроннымі версіямі 135 падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў для 1 - 11-х класаў.

Як паведаміў намеснік міністра, з 3-га па 11-ы клас выдадзены падручнікі па англійскай мове з улікам неабходнасці навучыць школьнікаў найперш гутарковай мове. Пры гэтым па дзвюх паралелях яшчэ трэба выдаць падручнікі. "Аўтарскія калектывы Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта працуюць у напружаным рэжыме, – сказаў Фарыно. – Лепшыя настаўнікі Беларусі далучаныя да стварэння, апрабацыі, экспертызы падручнікаў па замежных мовах".

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Да свайго 20-годдзя прадпрыемства "Марка" выпусціла 25-мільённую пару абутку, а яшчэ з двума заводамі свайго холдынга – ужо больш за 30 мільёнаў пар абутку.

**Шуміліна.** Пад пагрозай зрыву апынуўся пускавы аб'ект 2011 года – новая сучасная малочная ферма Амбросавічы, якая гатова пакуль на 70 % на трэцім годзе будаўніцтва.

**Віцебск.** Загадам Генпракурора РБ за неналежнае расследаванне выбуху ў Віцебску ад пасады пракурора вобласці вызвалілі старшага саветніка юстыцыі Генадзя Дыско.

**Лепель.** Спецыялісты малочнакансервавага камбіната пачалі перамовы аб пастаўках да канца 2011 года сухога малака ў аб'ёме 4 тысяч тон у год у Саудаўскую Аравію.

**Віцебск.** У ліку адстаючых у Беларусі апынулася наша вобласць па прыцягненні прамых замежных інвестыцый, іх атрымалі за 6 месяцаў года толькі 9 млн. долараў.

**Лёзна.** Толькі пасля звароту жыхароў ў Камітэт дзяржкантролю мясцовыя ўлады прывялі ў нармальны стан паляўую дарогу да дзеючых грамадскіх могілак у вёсцы Целяшы.

**Вароны.** У раёне дарожнай развязкі паблізу Віцебска пачалося будаўніцтва буйнейшага ў вобласці сучаснага аўтарынка плошчай 8 га з дылерскімі аўтацэнтрамі, гасцініцай, кафэ.

**Паставы.** На паўгода наперад мае цяпер заказаў ААТ "Паставы-мэбля" пасля асваення новай прадукцыі: драўляных зрубаў, лазень і альтанак і рэалізацыі свайго інвестпраекта.

**Віцебск.** Дзяржаўнай узнагародай, ордэнам Гонару, адзначылі працу па дасягненні высокіх эканамічных паказчыкаў дырэктара бройлернай птушкафабрыкі Ганну Шарэйка.

**Полацк.** Супраць была вядучага бухгалтара райаддзела міліцыі распачалі адразу 6 крымінальных спраў за прысваенне грошай, такі ж факт выяўлены тут і на вытворчасці.

**Шуміліна.** Тэхнагандлёвы цэнтр "Гарант" пачаў стварэнне 2-й у раёне сеткі кабельнага тэлебачання ў гарпасёлку Обаль на аснове сучасных валаконна-аптычных тэхналогій.

**Мёры.** Праверка якасці вадаправоднай вады адроджанага дзетсада аграгарадка Мікалаёва выявіла перавышэнне ўтрымання ў ёй жалеза адразу ў 6 разоў ад устаноўленай нормы.

**Дуброўна.** У вёсцы Чыжоўка трагічна загінула дзяўчынка ва ўзросце 1 год 7 месяцаў, якая патанула ... у бочцы з вадой каля хаты: у ёмкасць злівалася дажджавая вада з даху.

**Бешанковічы.** Позна вечарам на дарозе Мінск-Віцебск міліцыя затрымала мікрааўтобус, на якім жыхар Віцебскага раёна вёз без дакументаў 2,4 тоны цукру. Тавар канфіскавалі.

**Віцебск.** З-за эмацыянальнага стрэсу з моцнымі болямі ў грудзях ("сценакардыя") у адну з клінік Мінска быў шпіталізаваны галоўны трэнер ФК "Віцебск" Сяргей Бароўскі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ **Фадзей Шымуковіч,**
*педагог-пенсіянер,*
*г. Дзісна.*

# “Наша Ніва”

**У мяне ў руках факсімільнае выданне газет “Наша Ніва” за 1906-1908гг, выдадзенае на аснове архіўных матэрыялаў (газет таго часу) у 1992 годзе.**

**“Наша Ніва” №1, Вільня, 10-23-лістапада (ноябрь) 1906г.**

“Пачынаючы выдаваць беларускую газэту “Наша Ніва”, хочэм трохі пагаварыць з усімі, каму ў той чы іншы спосаб залежыць на нашай працы, хочэм адкрыць свае думкі, каб усе маглі нас пазнаць.

“Наша Ніва” будзе другой беларускай газэтай – першая газэта “Наша Доля” не жывецьць; яна была надта нядоўга, блiснула як маланка і згінула гдзесьці. Разумеем мы, як важна цяпер беларуская газэта, разумеем, якую вялікую работу яна можа зрабіць. І дзеля таго мы будзем старацца, каб наша газэтка заглянула ўсюды, каб папала яна і пад стрэху беднай курнай хаты мужыка-беларуса. Не думайце, што мы хочэм служыць толькі ці панам, ці адным мужыкам. Не, ніколі не! Мы будзем служыць усяму беларускаму скрыўджэнаму народу, пастараемся быць люстром жыцця, каб ад нас, як ад люстра свет падаў у цёмнасць… Мы будзем браць усё ад усіх і, злажыўшы ў парадак, зноў аддаваць. Ведайце добра, што “Наша Ніва” газэтка не рэдакцыі, але ўсіх беларусаў і ўсіх тых, хто ім спагадае. Кожны мае права быць выслуханым на страніцах нашэй газэты і кераваць ёю, толькі каб было разуміе, каб усе беларусы, што ня ведаюць, хто яны ёсць, - зразумелі, што яны беларусы і людзі, каб пазналі свае правы і памаглі нам у нашэй рабоці.

Не будзем пісаць громка. Будзем спакойне, цвёрда кідаць усім праўду ў вочы, пастараемся быць церпелівымі і панаваць над сабою; нехай халодны розум моцна трымае ў сваіх руках гарачэе сэрцэ…

А цяпер прызываем усіх тых, хто разумее нашы цэлі, адчувае тое, што мы чуем, і захочэ нам памагчы;

Падтрымайце нас у рабоці, што цяпер пачынаецца!”

Уступную частку і далей матэрыял газеты выкладаю з захоўваннем лексікі і арфаграфіі першакрыніц. “Наша Ніва” мяне зацікавіла тым, што яна па духу, структуры пабудовы напамінае “Вольнае Глыбокае”.

**“Наша Ніва” №10, 9(22) марца 1907г.**

“З Дзісненскага павета, м. Прозоркі. Трэба ж было ўтгнас выйсці такому здарэнню. Аблаяла прыяцёлка пана Б. арэндатара С. Той яе. Тут пан папрасіў прыстава. Той прыехаў з стражнікамі ды, заклікаўшы арэндатара, казаў стражнікам расцягнуць яго ды даць нагаек. Так і зрабілі. Ледзьве небарак зайшоў да хаты. “Суд борзды, справядлівы ды міласерны…” Праўдзівы.


Цэна асобнаго нумэру 5 кап.
Год други Вильня 23 (6) ноября 1907 г. № 34.
Наша Нива
Першая Беларуская Газэта з Рысункими
Выходзиць раз у тыдзень рускими и польскими литэрами
Адрес рэдакцыи и администрацыи: Вильня, Завальная улица, дом № 30.

МАЁ ЖЫЦЦЕ.

Баутрук.

Заседання Гасуд. Думы.

**“Наша Ніва” №1, 6 января (стычня) 1907г.**

Дзісна. 4 грудня Віленскі акружны Суд без прысяжных заседацеляў судзіў пробашча касцёла ў Лужках ксяндза Шолкоўскага за тое, што ён у лютым месяцы 1906 году даў шлюб з сваім касцёлі неякому Каснікоўскаму, праваслаўнаму, з дзеўкай Стэфкай Палынскай, каталіцкай веры. На судзе ксёндз бараніўся маніфестам 17 акцября, у каторым была аб'яўлена поўная свабода сумлення (значыць, і веры). Як выйшаў маніфест, то ўсе думалі, што настала праўдзівая свабода; толькі выйшла ня тое; “раз'ясненіе” 14 марца 1906 году паказала, што дарма цешыліся людзі, бо гэту “свабоду” трэба тлумачыць неяк інача… Суд, прынімаючы пад увагу, што кс. Шолкоўскі даў шлюб перад “раз'ясненіем 14 марца”, бо яшчэ ў лютым, апраўдаў ксяндза.

Докшыцы Мінскай губерніі. 17 дзекабра (снежня) наш земскі начальнік склікаў у воласць шмат папоў і некаторых мужыкоў, што купілі зямлю без банку. Пачыталі тамака мужыкам пісульні розных чорнасоценцоў, дый пачалі да іх надта салодзенька гаварыць. Гаварылі, гаварылі, а скончылася тым, што раілі мужыкам выбіраць у Думу папоў. Але паміж мужыкоў знайшліся такі разумныя людзі, што нехай папы і ўсе духоўныя думаюць аб справах духоўных, аб збавенні душ, а ў Думе німа для іх нікакой работы. Так земскі нічога і не дабіўся. Былі гэтакія сабранія і ў другіх земствах.

**“Наша Ніва” №13, 30 марца 1907г.**

М.Докшыцы Мінскага павета. У нас у Тумілавічах, як прыехаў з выбараў з Мінску наш выбаршчык, сабраліся мужыкі ды распыталіся, ці добрых дэпутатаў выбралі ў Думу, - “Як прыехалі мы ў Мінск, - расказаў той, - дык папы, што нас прывезлі, павялі да архірэя. Далі тут нам вельмі смачны і добры абед. Архірэй навучаў, каго выбіраць, а пасля даваў цалаваць хрэст і Евангелію, што будзем выбіраць, каго ён скажа. Толькі некалькі мужыкоў не згадзіліся на гэта. Пазней, як мы ўжо пачалі раз'язджацца дамоў, кожнаму даў архірэй грошы…” – Скончыўшы гэта, стаў выбаршчык намаўляць нас, каб запісваліся да нейкай чорнасоценнай партыі. Але ж мужыкі з яго пасьмяяліся і пашлі па хатах. - З архірэйскай кашаю з'еў той чалавек і справу мужыцкую, бо дэпутаты ад Мінскай губерні не вельмі за мужыкоў цегнулі.

Г.Глыбокае Дзісненскага павета. Мала не кожны раз на чацвярговы кірмаш німа ведама скуль з'яўляюцца неякія заўсёды п'яныя абарванцы; яны называюць сябе “істінно-русскімі людзьмі” і збіраюць з мужыкоў падпіскі, што прылучаюцца да іхняга чорнасоценнага саюзу. Дураць галовы цёмнаму народу, быццам таму, хто запішацца ў саюз, “дадуць зямлі, як вады”. Бываюць дурні, што верацьь гэтаму і запісваюцца. Чорнасоценнікі гаманяць, што прыедуць галоўныя пагромшчыкі Дубровін і Крушэван. Дзяк тутэйшы таксама належыць да чорнай сотні. Людзі баяцца, каб не зрабілі тут пагрому; пільнуюць мацней каней сваіх.

- Варта ўспомніць, што таксама перад выбарамі на Валыні Пачаеўскія манахі ашуквалі народ, кажучы, што дадуць зямлю таму, хто запішацца ў “саюз рускаго народу”. Гэтакім ашуканствам правялі ў Думу такіх чорнасоценных дэпутатаў, што проста сорам.

**“Наша Ніва” №15, Вільня 13 (26) красавіка 1907г. Сідор.**

Докшыцы Мінскай губерні. Нядаўна ў нашу Тамілоўскую воласць прыехаў чорнасоценнік з “саюзу рускага народу”. Ён птушка вось якая: родам ён з нашай воласці, з вёскі Зарачыцку, паехаў у Пецярбург, прапіўся да шчэнту, два гады не даваў аб сабе весці; маці спраўляла па ім паніхіду… Аж, дай, нячыстая прынесла яго, дый ужо са знакам “чорнай сотні”, дый з іхнімі кніжкамі і газэтамі. Відаць, як нікуды не прыймаюць і рабіць не ахвота – адна дарога ў “саюз ісцінна-рускага народа”. Ці не прысланы ён толькі за казённыя (саюза) грошы, каб нам, мужыкам, галовы задурыць? Вось і давай ён свае кніжкі людзям торкаць (гэтых кніжак і газэт у нашай канцыляры, перапрашаючы, што ў сабакі блох). Ну, прыйшоў ён на сход, давай хваліць свой “саюз” і кажэць: “Наш саюз выганіць усіх жыдоў і палякаў, бо ад іх уся бяда”. А аб зямельцы для мужыка, ды аб волі ані слоўца. Ведама ж, што гэты саюз граіць у адну дудку з графамі дый з вялікімі памешчыкамі і чыноўнікамі. Думаюць яны, відаць, нацкаваць мужыка на жыда, а самім сесці яму яшчэ мацней на шыю. Пішуць, кажэць, прыгавор, каб Думу ізноў разагналі, бо яна “крамольная”, дый пасылайце гэты прыгавор галоўнаму міністру. Выбарныя маўчаць, як замазанныя. Але знайшоўся такі чалавек, як гукнець ён на чорнасоценніка: “Ашуканец ты! Відзелі мы гэтакіх ісцінных рускіх! Што вы яго слухаеце?” Пачуўшы гэта, старшыня не ўстрымаўся: “Маўчы, крычыць, не перашкаджай яму, а то ў халодную адпраўлю”. Перад сходам старшына ездзіў да земскага і, відаць, намовіліся даць волю чорнасоценніку, дый паліцыя яго не гэпаець, ці не маюць на гэта бумагі? А добрага чалавека даўно заперлі б пад замок. Назаўтра п'яны старшына лётаў па сяле і напрашаў, каб не казалі нічога на перакор чорнасоценніку. Прыгавору проціў Думы, апроч пісара, памочніка і аднаго старасты, ніхто не падпісаў. Мужыкі праміж сабе гавораць: ці мы здурнелі, ці ў нас дзяцей няма, што мы будзем падпісваць брахню чорнасоценнікаў з саюзу. Ждалі мы вашай ласкі доўга, і цяпер Дума аб нас падумаець, а вас прасіць не будзем.

**“Наша Ніва” №25, Вільня, 20 ліпца 1907г.**

М. Буцлаў Вілейскага павету. 21 юня быў фэст. Людзей было вельмі многа. Людзі, чым купіць кніжку, газэту, ці аддаць грошы на што добрае, нясуць свае саракоўкі і паўрублі да манапольні. Манапольнька зарабіла каля тысячы рублёў ад мужыкоў. Было шмат паліцыі і стражнікаў, усе са стрэльбамі, штыкамі. Але нічога “падазрыцельнага” не было. Нават п'яныя не пабіліся.

**“Наша Ніва” №30, Вільня 28 сенцябра (верасня) 1907г.**

Г.Дзісна Віленскай губерні. 20 з'ехаліся з валасцей упаўнамочаныя ад “рускага населенія”. Выбралі 4 папоў, аднаго стараверскага папа і 3 мужыкоў беларусаў, адзін з іх быўшы валасны пісар. Краміч, чалавек абразаваны, быў губернскім выбаршчыкам у Другую Думу, надта чэсны і цягне за народ.

**“Наша Ніва” №32, Вільня 26 (8) акцябра 1907г.**

М.Глыбокае Дзісненскага павета Віленскай губерні. Мястэчкавыя людзі паслалі папечыцелю віленскага вучэбнага акруга прашэнне, каб у Глыбокім адкрылі гарадское вучылішча. Добра, што людзі пачынаюць ужо разумець, якое вялікае значэнне мае навука. На гэты год на школы Віленскай губерні прызначана трохі болей грошай, дык нехай людзі не спяць, а дамагаюцца школ усюды, дзе іх няхват.

**“Наша Ніва”№33, Вільня 10 (28) лістапада 1907г.**

Глыбокае Віленскай губерні. Пачалі і нашы мужыкі памалу выходзіць з цемнаты на свет, прачынацца ад доўгага сну. Думаюць аб тым, як хоць крыху палепшыць жыццё сваё і пры цяперашніх цяжкіх парадках. Месяц таму назад зрабілі тут сваю “суполку”, да каторай належаць больш 50 чалавек. У камітэт (раду) выбралі трох мужыкоў і двух памешчыкаў, каторыя з мужыкамі лепш жылі, як другія. На першым сходзе супольнікі пастанавілі адкрыць за свае супольныя грошы краму, дзе можна было б дастаць больш патрэбныя для вясковых людзей рэчы: соль, муку, газу, жалеза, плугі і іншыя рэчы. На другім сабранні пастаноўлена залажыць сваю касу (як-бы банк), дзе будуць складаць свае грошы і пазычаць, каму трэба, за працэнты, складаць будуць ад 1 рубля. Пастанавілі яшчэ купіць бугая – на завод, каб палепшыць гатунак мясцовай скаціны.

**Юрка Паніч.**

**“Наша Ніва” №4, Вільня 15 (280 лютага 1908г.**

М.Глыбокае Віленскай губерні Дзісненскага павета. На Каляды прыехаў сюды дэпутат ад “рускага населенія”, свяшчэннік Вераксін (член саюза рускага народа). Зрабіў ён раз сабранне і сказаў прамову ад сваіх ізбірацеляў. Але мужыкам яна не вельмі спадабалася: яны верылі, што “саюзнікі” шмат чаго даб'юцца для іх у Думе, але цяпер пазналі, што з гэтага нічога не будзе.

**“Наша Ніва” №10, Вільня 9 (22)мая 1908г.**

Г.Дзісна Віленскай губерні. У нашым маленькім уезным горадзе завялі ткацкую школу – варстат, дзе дарма вучаць вёскавых дзяўчынак ткаць дываны, палатно і і іншыя рэчы на новых кроснах-самалётах. Міністэрства сельскай гаспадаркі дало адзін станок для дываноў і два для палатна, дзісенская каталіцкая дабрачынная суполка – 2 станкі, п. пацэвіч – 1 станок, п. Пашкевіч – 1 станок, а пані Снарская – цэлых 5 станкоў, бо міністэрства трэбавала, каб было 12 кросен-самалётаў. Міністэрства прыслала вучыцельку А.Д. Пахалкову, каторая добра вучыць ткаць на розныя дэсані, а так сама вучыць плясці карункі, казна ёй пэнсію плаціць, а тут толькі даюць ёй кватэру. Трэба цешыцца, што ў нас людзі не спяць. Была б толькі цвёрдая воля і звычай дабівацца ня гледзючы ні на што сваёй мэты, а заўсёды знойдуцца людзі, што потым прыстануць да суполкі і памогуць. Найчасцей кожны кажа, што нічога не ведае і ня хоча ведаць, - “мая хата з краю”.

Перад адкрыццём школы прыязджаў “інструктар”, каторы навучаў дарма ўсіх, хто хоча, як развадзіць і вырабляць добры лён.

У нас каля Дзісны цяпер парабіліся малочныя суполкі, б'юць цэнтрафугамі масла і пасылаюць проста ў Лондан (па 17-18 руб. за пуд). Адзін паставіў нават паравую цэнтрафугу і выбівае па некалькі пудоў масла ў дзень. Мужыкі прадаюць сваё малако для гэтых фабрык па 10-12 кап. за гарнец.

**“Наша Ніва” №23. Вільня 7 (20) наябра 1908г.**

З Дзісненскай паветy Віленскай губерні. Жменька людзей у нас пачала ўжо рупіцца аб паляпшэнні жыцця свайго, закладаючы таварыствы сельскай гаспадаркі, арганізуючы выстаўкі і г.д. Апроч таго, у некаторых бальшых мястэчках ( у Дзісне, Глыбокім) ёсць ужо пазакладаныя хаўрусныя крамы. Больш усяго людзі пачалі ў нас рупіцца аб малочнай гаспадарцы. Закладаючы як супольныя, так і прыватныя млячарні. Першую вялікую млячарню адкрылі ў 1905 годзе, каторая цяпер у год перарабляе з малака да 3 тысяч пудоў масла. Цяпер, ня лічачы малых прыватных млячарань, што перарабляюць толькі сваё малако, ёсць яшчэ 18 вялікіх заводаў ( у гэтай лічбе 5 хаўрусных), каторыя пасылаюць сваё масла ў Англію. Летась паслалі на 175 тысяч рублёў. Гэтыя млячарні плацяць праз 6 летніх месяцаў па 9 кап. за гарнец (50 кап. за пуд малака), праз 3 зімовыя – па 12 кап. (70 кап. за пуд) і праз 3 восеньскія – па 10,5 кап. (60 кап. за пуд). Кепска, што ў нас не ўмеюць даглядаць кароў. Вельмі добрай каровай у нас ужо лічыцца тая, што дае 500 гарцаў у год, а гэтакіх па вёсках можна палічыць на пальцах. У Даніі з нашых кароў толькі б смяяліся. Тамака кепскай каровай лічыцца ўжо тая, што даець 1000 гарцаў у год. Але добра будзе, калі каровы дадуць нам і па 1000 гарцаў, а лічучы па 10 кап. за гарнец, значыць, па 100 рублёў, 50 рублёў трэба адкінуць на корм, то астанецца яшчэ, апроч гною, 50 рублёў. Але пэўна мы гэтага скора не дачакаемся. Бо палепшыць сваю млечную гаспадарку можна толькі тады, як ёсць грошы або танны крэдыт. А ў нас, вядома, з грашыма цяжка і крэдыту няма.




**Беларуская вёска вымірае… Знікаюць з карты цэлыя паселішчы. І толькі старыя яблыні ды купіны бэзу збоч дарог, замшэлыя падмуркі ўсё яшчэ нагадваюць: тут калісь была вёска.**

**Вёскі зніклі не толькі таму, што сыходзілі ў лепшы свет састарэлыя ў ёй тубыльцы, але й таму, што з'язджала моладзь. А чым заняцца ў глухой пушчанскай вёсцы? Працы няма, тэлефон адсутнічае, зімой не дайсці-не даехаць, да бліжэйшай крамы ў суседняй вёсцы – 5-7 км, прыватнае аўто не купіць: дзесяцігоддзямі стаяць ў чарзе…**

**Свет раптам, у адно імгненне змяніўся… Усё ёсць, аб чым і марыць было немагчыма гадоў дваццаць таму. Тэлефон – мабільны, і драты не трэба кіламетрамі цягнуць, ёсць і выйсце ў інтэрнэт, любы тэлеканал дастутны, купляй спадарожнікавую антэну, патрыманае аўта займець не праблема…**

**Феномен! Народ паехаў у вёску… Не толькі з Глыбокага, але й са сталіцы.**

**У мінулым годзе ў матэрыяле "Хутар Скрабатуны" (№№47,48) мы апавялі аб сям'і Серафімовічаў, якія пакінулі мітуслівы Мінск і пераехалі жыць на Глыбоччыну, на бераг возера Супонец. Мінчане адрадзілі паселішча, якому было наканавана знікнуць з карты Беларусі.**

**Рыхтуючы гэты матэрыял, мы зрабілі цікавую вандроўку па Глыбоччыне. Наведалі чатыры сям'і перасяленцаў з вялікіх гарадоў у глыбоцкую глухмень. Але найперш мы завіталі ў Маргі, да спадарства Мельнічэнкаў. І не падумайце, што за гарой воўк здох! Матэрыял напісаны на рускай мове па жаданні нашых рэспандэнтаў.**

# Жить в соответствии с законами природы

**Владимир Скрабатун**, *текст и фото.*

**Посещение деревни Морги стояло первоочередным в наших ближайших планах. Здесь живёт семья Мельниченко – недавние жители Глубокого, переехавшие сюда когда-то из Калининграда. Теперь – жители деревни, а точнее, хутора Морги.**

**В предвкушении увидеть много интересного мы отправились в дорогу.**

**Какова мотивация: продать благоустроенную трёхкомнатную квартиру на улице Садовой и поехать жить в эту, образно говоря, глушь? Неутомимое желание реализовать себя на ниве фермерства? Или жить в согласии с природой? С этими вопросами мы и приехали в Морги.**

## Морг – с утра до полудня

А что мы знаем о Моргах? На польской топографической карте 1932г. деревня Морги отмечена как имеющая 12 дворов. На советской же карте 1987г. отмечено и число жителей – 0,02 тысячи человек. Теперь – один дом и три человека, или – 0,003 тысячи жителей. С одной стороны – колхозное кукурузное поле, с другой – лес, за лесом – в полукилометре река Шоша.

Название деревни восходит к временам Великого Княжества Литовского. Морг – устаревшая единица измерения площади земли в средневековой Западной Европе и, в частности, в Речи Посполитой, равная приблизительно 0,56 гектара.

Первоначально морг означал площадь, которую 1 человек может вспахать или скосить на одной запряженной лошади в течение рабочего дня (то есть, с утра до полудня), и её величина – в зависимости от качества почвы, запряженных лошадей и инструментов в Европе колебалась от 0,33 до 1,07 гектара.

Изданный в 1884 г. том VI «Географического словаря Королевства Польского и других славянских стран» писал: «Морг (нем. Morgen (утро), означает площадь земли, которую один человек может в течение 1 дня скосить или вспахать. В старопольском языке перевод с немецкого слова morgen на польское слово «утрина» не прижился и остался в широком обиходе. Размеры морга были различными: каждая область имела свою меру. Морг коронный старопольский равнялся 59,85 ара, морг новопольский - 56,017 ара, **литовский морг** - 71,226 ара, хелмский старый - 56,062 ара, прусский или магдебургский, известный также как рейнский - 25,532 ара, саксонский морг - 27,67 ара, венский морг - 1600 квадратных саженей или 57,554 ара. Десятина составляла 1,95 новопольского».

Кстати, со времён Великого Княжества и до наших дней сохранилась в наших краях в обиходе одна единица измерения – копа. Копа – 60 штук. В таком измерении, например, продаётся рассада капусты на рынке.

Лишь только мы приехали в Морги, ещё не увидели хозяев, как к нам навстречу прибежало целое стадо животных: овца, две собаки и три вьетнамских вислобрюхих свиньи. Окружили авто. Несмотря на миролюбивый вид животных, особенно собак, всё же поначалу было страшновато выходить наружу. Собаки привставали на задние лапы, а передними опирались на стекло… Что у них на уме?

Вот и хозяева вышли: Роман, Руслан (родные братья), их мать Светлана.

## Нужно взглянуть в историю: как люди раньше жили?

**Владимир Скрабатун** (далее **В.С.**): Мы приехали к Вам в контексте «Народнай Праграмы» – обсуждения позитивного видения будущего Беларуси. Многие деревни исчезают с лица белорусской земли. Молодёжь уезжает в большие города, покидая престарелых родителей доживать свой век. Вы же, наоборот, из города приехали не то что в деревню, а на хутор! Что Вас подвигло на это? Желание реализовать себя на ниве фермерства? Агротуризма? Или что-то иное?

**Роман Мельниченко** (далее **Р.М**.): Нет! Мотивация совсем иная! Мотивация была с детства. Хотелось всего естественного. Мне, например, не нравилось, как люди обращаются с животными, как их содержат. Это меня сильно трогало, задевало до больших слёз.

**В.С.:** Ой, простите, что перебиваю … Вам просто необходимо познакомиться с Серафимовичами из хутора Скрабатуны. У Якова Серафимовича – похожая мотивация: ему тоже не нравилось обращение людей с лошадьми. Вот и уехали с Минска…


Роман Мельниченко (слева) и его брат Руслан, ученик Подсвильской СШ.

**Р.М.**: В своё время я даже бросил школу. Занялся бизнесом. В 16 лет открыл в Минске рекламное агентство. Захотелось большего – поехал в Москву. Вроде бы всё хорошо шло: карьерный рост, хорошие деньги. Достиг всего, чего хотел. Но с детства тянуло в деревню. Искал три года землю возле Питера, искал возле Москвы. Приезжал в Беларусь. Нашёл здесь.

Люди уезжают из деревни почему? Тяжёлый труд! Мы же хотим поставить хозяйство так, чтобы всё было естественно и работа не внапряг. Воссоздание всего того, как раньше было и работало. Наше понимание идёт вразрез с общепринятыми действиями и мыслями, как идёт сама жизнь в деревне. Хотим, чтобы здесь были все привилегии и удобства городской жизни. Но у нас их будет больше.


Светлана Мельниченко показывает картофель, выращенный в соломе.

**Светлана Степановна Мельниченко** (далее **С.М.**): А что в городе? Вы живёте в большом доме: слышите одного соседа, второго – то с первого этажа, то с десятого, кто-то занимается ремонтом, кто-то пьяный пришёл…. И вы не можете с этим никак справится. Мы здесь живём уже три года. И всё время поражаюсь: Боже, ну какая здесь тишина! А какие в городе прелести?! Ну, джакузи, например. Будет это и у нас здесь!

Мы объездили всю Беларусь, два года искали место! Просто поразились, какой у Беларуси огромный ресурс! Огромнейший! В Голландии, например, людям приходилось землю завозить… А у нас народ уезжает из деревень, говорит: «Здесь нужно пахать!» Вот напридумывали себе!

Нужно заглянуть в историю и посмотреть, как люди раньше жили. Применить сегодняшнее мышление. Дайте этому поросёнку возможность: пусть себе бегает по улице на здоровье. Вреда почти никакого. Ну, пороет где-то землю.

**Р.М.:** Будем делать загон для нескольких видов животных, где они сами себя будут обеспечивать. Здесь рядом, в лесу, проходят тропы диких животных: оленей, косуль, лосей, проходят и тропы диких кабанов. Часто ночью, рядом с домом, можно услышать хрюканье диких свиней.

**В.С.:** Страшно?

**Р.М.:** Страшно! Так вот, если вы пройдётесь по лесу днём и увидите свежий помёт лосей, оленей или косуль, он будет только свежим. Через день-два дикие кабаны всё съедают. Раньше в деревне для домашних свиней был самым лакомством конский помёт!

Вот такой загон для нескольких видов животных, где будет симбиоз, мы хотим создать, чтобы круглогодично они сами себя обеспечивали. Например, бараны и свиньи. Свиньи будут подъедать за баранами круглогодично, и зимой тоже. Будем подсевать там разные растения: картошку, топинамбур, разные травы, чтобы зимой выкапывали. Для создания симбиоза будут на этой территории жить и гуси, и утки, устроим пруды. Должны здесь расти и ядовитые грибы, чтобы животные сами лечились, а мне лекарствами не заниматься.

**В.С.:** Мы уже давно знакомы. Наверное, год. Вы приезжали в редакцию, давали объявления, много интересного рассказывали, мы читали Ваш «Живой журнал» в интернете (http://r-melnichenko.livejournal.com/), а вот приехали к Вам впервые, хотелось бы, чтобы Вы нам всё показали и рассказали. Вот, например, как Вы выращиваете картофель в соломе? Это как-то необычно, расскажите.

## Картофель в соломе

**С.М.:** Как обычно сажают картофель? Берут весной лопату, приходят на грядку, вскапывают вручную или вспахивают конём, вносят удобрения, навоз, например, и садят… Потом всё лето надо ходить полоть гряды, окучивать раза два за сезон, собирать колорадских жуков… Осенью выкопать и собрать урожай. Всё время нужно работать!

А у нас – пришли на поле, положили картофель, сверху укрыли соломой. И – всё! Вот посмотрите, какие стебли! Сорняков нет! Жуков я не собираю не потому, что лень или времени нет… Они не успеют ботву съесть!

Солома держит влагу и тепло. На одной и той же соломе три года можно выращивать картофель. И никакого большого ухода: не нужно полоть и окучивать. Правда, картофель в соломе всходит на несколько дней позже, чем в грунте, но он потом «догоняет и перегоняет» в росте.

Если нужен картофель для еды, то мне не надо вскапывать куст лопатой. Вот, показываю вам: аккуратно раздвигаем солому, чтобы не повредить корешки, и собираем картофель. Картофель – большой, чистый, без налипшей земли. Берём сколько нужно картофелин, отсоединив их от корешков, и снова закладываем куст отвёрнутой соломой. Корневая система у нас не нарушается в отличие от способа выращивания в грунте. На корешках осталась завязь, и через неделю на них снова вырастут картофелины.

При способе выращивания картофеля в грунте что получается? Приходят люди в конце августа-начале сентября убирать картофель и видят: вся ботва уничтожена фитофторой! А мы собираем картофель – и мне жалко своей ботвы – она вся такая ещё зеленая! Растёт и цветёт!

*Продолжение на стр. 11*

# Марам браканьераў перашкаджае будзённая рэальнасць

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

4 жніўня, цёплы летні вечар, настрой у жыхара в. Сталіца Шаркоўшчынскага раёна, Карасёва Аляксандра, быў вельмі добры, усе справы ладзіліся. І вырашыў наш герой: а чаму б не налавіць рыбкі, толькі вось спосаб лоўлі абраў не самы добры – сеткамі. Як толькі сцямнела, Карасёў, не марудзячы, пайшоў на мясцовае возера і закінуў свае браканьерскія сеткі, а возера багата рыбай: шмат ляшча, карася залатога, шчупакі. Вось ужо і развіднела, сонца высока, пара і сеткі даставаць з багатым уловам, а ўлоў сапраўды вельмі багаты апынуўся: 48 залатых карасёў, усе адзін у адзін тоўстыя, укормленыя. Эх, добрая будзе юшка, думаў Аляксандр, дастаючы свае сеткі, але як толькі ён прыплыў на бераг, яго мары набылі будзённую рэальнасць у выглядзе работнікаў Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету. Зараз нашаму герою прыйдзецца адказваць за прычыненую прыродзе шкоду ў памеры 3 млн. 297 тысяч рублёў, а таксама пазнаёміцца з Крымінальным Кодэксам Рэспублікі Беларусь.

Два дружбакі, Аляксееў і Пятроў, абодва жыхары г. Мінска, 11 жніўня прыехалі ў госці ў адну з маленькіх вёсак Докшыцкага раёна. Народу ў вёсцы сёння не шмат, галоўным чынам адны старыя, а таму вырашылі сябры: рабі ўсё, што пажадаеш, у тым ліку і рыбку сеткамі лаві. І вось ужо дзве лесачныя сеткі пастаўлены ў возера Сэрвач, можна спакойна адпачыць, дачакацца добрага ўлову і нацешыцца юшкай. Раненька на досвітку наступнага дня нашы госці знялі сеткі, улоў быў не вельмі, але на юшку хопіць. Выплываючы на бераг, таварышы прадчувалі добрую юшку, але якое ж было здзіўленне, калі на беразе іх сустрэлі супрацоўнікі дзяржаўнай інспекцыі. У планы гора-браканьераў гэта не ўваходзіла. Зараз гасцям са сталіцы нашай Радзімы прыйдзецца адказваць перад законам.

Вось такія прыклады нажаль усё яшчэ сустракаюцца, а людзі вучацца толькі на сваіх памылках.

Не магчыма не закрануць тэму чысціні берагоў нашых вадаёмаў. Шматлікія берагі азёр завалены смеццем пасля рознага роду пікнікоў, гуляў, і толькі пакараннем гэту праблему не вырашыць, без разумення праблемы чысціні азёр і дапамогі грамадзян у гэтым пытанні мы не зможам захаваць унікальную прыгажосць нашых вадаёмаў.

Тэлефоны «гарачай лініі» Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету: 8-02156-28670, 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# Падсвільскі Світанак -2011

■ Яўген Самсонаў

**Вось ужо сёмы год запар у трэцюю нядзелю жніўня, а другой палове дня, на Цэнтральным пляцы гарадскога пасёлка Падсвілле весела і цікава. Тут адзначаюць свята пасёлка - "Падсвільскі Світанак".**

У гэтым годзе яно праходзіла пад дэвізам «Усе на Падсвільскі кірмаш».

– Выдзяленне значных грашовых сродкаў на добраўпарадкаванне і газафікацыю пасёлка – адзнака дзяржавы за добрасумленную працу, – зазначыў падчас адкрыцця свята старшыня Глыбоцкага райвыканкама Алег Віктаравіч Морхат.

Так, падсвільчане ўмеюць не толькі добра працаваць, але і адпачываць. Ды і далёка не кожны горад можа пахваліцца, што мае свой уласны герб і гімн, а жыхар можа ганарыцца, што карані яго роду з гэтай акругі

Аякікірмашабыходзіцца без гумару, дабразычлівых розыгрышаў, спеваў і танцаў?

У тэатралізаваным прадстаўленні выступілі самадзейныя артысты мясцовых прадпрыемстваў і госці – Пастаўскі народны клуб нацыянальнай кухні, гульняў і абрадаў "Традыцыя". Парадавала прысутных сваім артыстызмам і местачковая дзятва.

Вечарэла. Але эстрадная праграма "Спявайце разам з намі" як бы падліла масла ў радасны настрой адпачываючых, а мінскія віртуозы "Шоу агню" настолькі завялі гледачоў, што амаль да поўначы ніхто не хацеў разыходзіцца. Старэйшыя танчылі, малодшыя забаўляліся на атракцыёнах.










# Приглашаем получить профессиональное образование в соседней стране – Латвии



# Віншаванкі

## Надзея Анатольеўна Шапавал

**Дарагая і любімая наша! Віншуем цябе з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя і доўгіх год жыцця!**

Нет теплей твоих рук и светлей твоих глаз,
И добрей мы не слышали голоса.
Ты молилась за нас и страдала за нас,
И сединки цеплялись за волосы.
Поздравляем тебя мы большою семьёй,
Здоровья и сил пусть хватает,
Пусть невзгоды обходят тебя стороной,
И Господь пусть тебя охраняет!

*Твае родныя.*

# Просім дапамогі!

3 суботы на нядзелю, з 13 на 14 жніўня, на Цэнтральнай плошчы нашага гор. Глыбокае адбылося здарэнне. Незнаёмы злачынца пашкодзіў фарбай сцяну Дома Саветаў. Вялікая просьба да тых, хто ў 2 гадзіны ночы знаходзіўся на плошчы і быў сведкам здарэння, патэлефанаваць на нумар **8 (029) 597-21-74** (мтс). Узнагароду і ананімнасць гарантуем.

*Глыбоцкі РАУС.*

Вяртаючыся да надрукаванага

# Малыя рэкі– вялікія праблемы

**Вось і сапраўды – іронія лёсу! «Малыя рэкі» нарабілі і нам вялікіх праблем у мінулым нумары (№33)!**

Пры перасылцы па электроннай пошце у Маладзечанскую друкарню газетнага файла у фармаце PDF згубіліся 3 літары «Я» ў загалоўку. Дакладней – 6 літар, бо загалоўкаў было два.

Нечувана і непрадказальна! У нас на маніторы ўсе літары прысутнічаюць, а ў Маладзечне іх няма! Вельмі рэдкая з'ява, таму там ніхто на гэта не звярнуў увагі. Была яшчэ адна хіба – нечытальны тэкст на стар.3, і таксама не па нашай віне.

**Перапрашаем!**

Адно суцяшэнне – для бібліятэк і архіваў дадаткова будуць аддрукаваныя асобнікі без памылак. Пройдзе час – і ніхто пра гэта ўжо не згадае.

*У.С.*

